# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### З ЧЭХАСЛАВАКІІ

З ЧССР наплываюць даныя, якія інфармуюць, што сітуацыя тут нармалізуецца з кожным днём. Выступаючы на з'ездзе Камуністычнай партыі Славакіі Густаў Гусак сцвердзіў м. інш: «Гэтая нармалізацыя залежыць ад нашых уласных огранаў урадавых і палітычных. Ніхто не прымушаў нас да «аплікацыі», ні да таго, каб пакінуць нашыя палітычныя канцэпцыі прынятыя ў студзені. Вось гэта рэчаіснасць. Аднак можна цэласць гэтай рэчаіснасці адкінуць і піхнуць нас да крывавай авантуры». З'езд КП Славакіі выбраў Г. Гусака І сакратаром ЦК. Папярэдні І сакратар ЦК. В. Біляк увогуле не быў выбраны ва ўлады КП Славакіі, хаця з'яўляецца членам прэзідыума КПЧ.

Урад ЧССР пастанавіў паклікаць да жыцця, пры Савеце Міністраў, ведамства д/с прэсы і інфармацыі. Роля гэтага ведамства, у распараджэнні якога будзе друк, радыё, тэлевізія і агенцтва ЧТК, будзе заключацца ў кіраванні цэнтрамі масавага пераказу. Адначасова будзе выконваць ён ролю інфармацыйнага і кансультацыйнага цэнтра прэзідыум урада ў яго адносінах з рэдакцыямі.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ НЕАТАМНЫХ

У Жэневе сабралася канферэнцыя неатамных дзяржаў, у якой прыймае ўдзел каля 90 дзяржаў. Сярод іх знаходзяцца прадстаўнікі чатырох атамных дзяржаў (СССР, ЗША, Вялікабрытаніі і Францыі) як назіральнікі. Большасць удзельнікаў канферэнцыі хацела б трактаваць гэтую сустрэчу як дапаўненне духа і літары дагавору аб непраліферацыі. Аднак некаторыя дзяржавы хацелі б яе пераўтварыць у інстытуцыяльны, пастаянны міжнародны арганізм. Калі б да таго дайшло, ФРГ магла б адыгрываць першапланавую ролю, а таксама выгадную платформу палітычнага і гаспадарчага націску, перш за ўсё на нейтральныя і развіваючыеся краіны.

### ЗЛАЧЫНСТВЫ Ў В'ЕТНАМЕ

Камісія, якая займаецца даследваннем ваенных злачынстваў у В'етнаме, апублікавала трагічны баланс прымянення амерыканцамі канвенцыянальных бомб і ракет. Камісія сцвярджае, што на працягу апошніх чатырох год амерыканскія лётчыкі выканалі тры тысячы налётаў на плаціны і іншыя абсталяванні, разбурана 161 шпіталь, 632 школы і 312 святынь.

### НЕПАКОІ

Узраслі непакоі ў некаторых краінах Афрыкі і Лацінскай Амерыкі. На ўсіх франтах **Нігерыі** праходзілі цяжкія баі і па абодвух баках было многа забітых і раненых. Дзеянні бунтаўнічых банд у Паўночна-ўсходніх раёнах **Рэспублікі Чад** прымусілі прэзідэнта прасіць дапамогі французаў. У Конга-Бразавіль уведзена ваеннае становішча. У сталіцы **Мехіко** зноў дэманстрацыі. Да моладзі далучыліся нафтавікі. У **Гватэмалі** ў выніку замаху згінуў пасол ЗША. А.К.

## БССР

### ШКОЛЬНАГА

У сувязі з пачаткам школьнага года міністр асветы Беларускай ССР, **М. Мінковіч,** даў інтэрв'ю карэспандэнту Беларускага тэлеграфнага агенцтва, якому, між іншым, заявіў, што ў гэтым годзе будзе працягвацца пераход на новыя навучальныя праграмы. Па новай сістэме будуць працаваць першыя класы ўсіх школ у сталічным Мінску, а таксама адной са школ у кожным раёне. Затым, у гэтым годзе ў Беларусі адкрываецца пяцьдзесят новых сярэдніх школ. У рэспубліцы будзе працаваць 17 школ з паглыбленым вывучэннем асобных прадметаў, як сродак задавальнення цікавасці навучэнцаў да асобных галін ведаў. Такія заняткі уводзяцца таксама ў сёмых ды восьмых класах.

### АЛЖЫРСКІ

Мінск наведаў алжырскі міністр па справах ветэранаў вайны **Буалем Бенхамуда** з жонкай. Знаходзіцца ён у Саюзе ССР з мэтай устанаўлення больш цесных кантактаў і дружалюбных сувязей з савецкімі ветэранамі вайны.

### ПРАЖСКАЙ

На вытворча-азнаямленчай практыцы ў Беларусі знаходзілася група студэнтаў Пражскай вышэйшай зелмяробчай школы. Іх запрасіў Беларускі інстытут механізацыі сельскай гаспадаркі, які трэці год падтрымлівае сувязь з гэтай вышэйшай чэхаславацкай навучальнай установай. Чэхаславацкія госці, м. ін., наведалі Белавежскую пушчу.

### МІНАЯ

Пры Запольскай сярэдняй школе Лёзненскага раёна адкрыта музей, які прысвечаны камандзіру Першай беларускай партызанскай брыгады Герою Савецкага Саюза **Мінаю Шмыраву** (з Віцебшчыны).

### ПОМНІК

Ля чыгуначнай магістралі Брэст—Масква недалёка ад Баранавічаў узнімаецца помнік ахвярам нямецкага фашызму — 3 тысячам чэхаславацкіх грамадзян, расстраляных тут у канцы 1942 года. Помнік у выглядзе двух 12-метровых жалезабетонных слупаў будзе нагадваць апоры драцяных загарод гітлераўскіх канцлагераў. Уверсе, дзе яны злучаюцца, умацуюць звон. Ён будзе гучаць нават ад найменшага подыху ветру, напамінаючы людзям аб страшэнных злачынствах гітлераўскіх катаў. Праект помніка распрацавалі скульптар Міхаіл Альтшулер, архітэктары Мікалай Мілавідаў, Анатоль Марэніч і Адольф Макараў.

### ЖУРАЎСКАГА

Мінскае выдавецтва «Навука і тэхніка» выпусціла кніжку «Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» т. І **А. Жураўскага,** вядомага беларускага мовазнаўца. Гэта першае сур'ёзнае даследванне па гісторыі нашай мовы, грунтуецца яно на вывучэнні каля сто пісьмовых помнікаў XV—XVIII стагоддзяў, — м. ін. дзелавых дакументаў Вялікага княства Літоўскага, у якім на працягу больш двухсот гадоў беларуская мова з'яўлялася афіцыйнай (да пачатку XVII ст.).

## ПОЛЬШЧА

### ДАЖЫНКІ

У нядзелю 8 верасня ў Варшаве на стадыёне Х-годдзя адбылася ўрачыстасць цэнтральных агульнапольскіх дажынак. На ўрачыстасць з'ехалася з усяе краіны каля 50 тысяч працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Гаспадаром дажынак быў І сакратар партыі Уладзіслаў Гамулка.

На ўступе прамоўца склаў усім працаўнікам сельскай гаспадаркі сардэчную падзяку за працу пры жніве, за сабранне багатых плёнаў. Наступна ахарактарызаваў ён вынікі гэтага гаспадарчага года ў сельскай гаспадарцы. Вынікі гэтыя наогул добрыя, асабліва добрыя ў гэтым годзе зборы збожжа, алеістых культур, сена і бульбы.

І сакратар партыі запэўніў, што партыя надалей будзе рэалізаваць палітыку падтрымкі развіцця сельскай гаспадаркі згодна з пастановай ЦК партыі з верасня 1967 года і перадз'ездаўскімі тэзісамі. Гаворачы аб далейшых напрамках развіцця сельскай гаспадаркі Уладзіслаў Гамулка ўказаў на неабходнасць пашырэння прадукцыі збожжа і прапашных культур. Кантрактацыя збожжа з плёнаў 1967 года мусіць ахапіць абшар на 390 тысяч гектараў больш, чымсьці ў гэтым годзе. Неабходна таксама пашырыць абшар пасеваў пшаніцы, асабліва тых яе сартоў, якія прыносяць плёны нават на глебах сярэдняй якасці. У новым гаспадарчым годзе дзяржава забяспечыць сельскую гаспадарку ў навейшыя сродкі прадукцыі і пабольшыць размеры сельскагаспадарчых інвестыцый. Забеспячэнне ў трактары і сельскагаспадарчыя машыны будзе на 20 працэнтаў большае чымсьці ў гэтым годзе і асягне вартасць 10 мільярдаў злотых. Дастаўка штучнага ўгнаення дазволіць на прымяненне ў сярэднім 113 кілаграмаў НПК на гектар сельскагаспадарчых угоддзяў, гэта значыць, на 21 кілаграм больш чымсьці пад плёны з гэтага года. Палепшыцца асартымент сродкаў аховы раслін, а агульная іх колькасць будзе на 6 прац. большай, чымсьці ў гэтым годзе. Удзел дзяржавы ў сельскагаспадарчых інвестыцыях асягне суму 19 мільярдаў злотых. Будзе гэта сума ў два разы большая ад выдадзенай на сельскагаспадарчыя інвестыцыі ў 1965 годзе.

**«Вялікія гаспадарчыя дасягненні Народнай Польшчы, усё тое, што на працягу 24-годдзя асягнута ва ўсіх галінах нашага жыцця з'яўляюцца найлепшым пасведчаннем слушнай палітычнай дарогі, па якой вядзем народ»,** — заявіў Уладзіслаў Гамулка. Асноўнай справай, якая акрэслівае палітыку партыі і ўрада, з'яўляецца забеспячэнне мірнага развіцця нашай краіны і непарушнасці яе дзяржаўных межаў. Народ наш ніколі не можа дапусціць да таго, каб у той ці іншай форме паўтарыўся трагічны верасень 1939 года. У апошніх месяцах небяспека такая заіснавала. Заіснавала канкрэтная пагроза вырвання Чэхаславакіі з радоў дзяржаў Варшаўскага Дагавору. Каб да гэтага не дапусціць, неабходным аказалася ўвесці войскі саюзных дзяржаў на тэрыторыю Чэхаславакіі.

## ВАЯВОДСТВА

### ВІЗНА

Адным з найбольш заўзятых баёў ў вераснёвай кампаніі 1939 года быў бой за Візну. Памяць аб геройстве польскіх салдат жыве па сённяшні дзень у народзе. 8 верасня г.г. у 29 гадавіну абароны Візны перад фашысцкімі захопнікамі клуб афіцэраў запаса Войска Польскага, які існуе пры Ваяводскім праўленні Лігі абароны краіны. наладзіў у Візне ўрачыстасці прысвечаныя памяці герояў.

### СВЯТА ЧЫГУНАЧНІКА

Як штогод на пачатку верасня чыгуначнікі Беласточчыны — разам з чыгуначнікамі ўсёй краіны — адзначылі сваё свята. У гэтым годзе праходзіла яно асабліва ўрачыста, бо супала з 50-ай гадавінай дзейнасці прафсаюзаў чыгуначнікаў. Паспяхова развіваецца сярод чыгуначнікаў Беласточчыны спаборніцтва працы. Прымаюць у ім удзел 84 брыгады сацыялістычнай працы і два аддзелы сацыялістычнай працы. З нагоды свайго свята 336 чыгуначнікам павышана зарплату, а 237 чыгуначнікаў пераведзена на вышэйшыя пасады. Беластоцкая дырэкцыя за ўласныя грошы пабудавала дагэтуль 8 жылых дамоў, а з чыгуначнай мешканёвай спулдзельні атрымала кватэру звыш 300 сем'яў.

### ДЗЕНЬ ЭНЕРГЕТЫКА

7 верасня г.г. адзначалі таксама свой дзень рабочыя беластоцкай электрастанцыі і энергетычнай сістэмы Беластоцкага ваяводства. Пры нагодзе варта адзначыць, што электрычнай энергіяй карыстаецца ўжо 70% гаспадароў Беласточчыны.

### ПЕРАД З'ЕЗДАМ

У Гайнаўскім павеце, як у цэлым ваяводстве, адбываюцца сходы партыйных пярвічных арганізацый. На Гайнаўшчыне адбылося ўжо звыш 150 такіх сходаў. Ствараюць яны добрую нагоду, каб па-гаспадарску абмеркаваць найбольш істотныя справы.

Ваяводскі камітэт ПАРП у Беластоку 7 верасня наладзіў нараду сакратароў прапаганды і арганізацыйных аддзелаў. Удзельнікі нарады абмеркавалі ход даз'ездаўскай кампаніі, разгледзілі прапановы, якія найчасцей высоўваюць на сходах у прадпрыемствах і ў вёсках, падсумавалі ажыццяўленне грамадскіх чынаў.

### СЯЛЯНСКАЯ САМАПОМАЧ

Адбыўся IX з'езд дэлегатаў Ваяводскага саюза гмінных спулдзельняў сялянскай самапомачы Беластоцкага ваяводства. Гэта найбольш буйная спулдзельня на Беласточчыне. У яе распараджэнні на тэрыторыі ваяводства знаходзіцца: 2100 пунктаў скупкі чыста гаспадарчых пладоў, амаль 2500 пунктаў продажу тавараў, 863 пункты паслуг для насельніцтва, 140 гасподаў і рэстаранаў і 267 прадукцыйных прадпрыемстваў.

### ЭКСКУРСІЯ

Праўленне ГС у Нараўцы за кошт 30 тысяч злотых наладзіла сваім працаўнікам краязнаўчую экскурсію. Наведалі яны Люблін, Сандомеж, Вялічку, Кракаў, Асвенцім і Варшаву. У экскурсіі прыняло ўдзел 34 асобы. (вр)




**NIEDZIELA, 15 września**

8.25 Program dnia. 8.30 „Zabytki architektury" (Wilno). 9.00 „Przygody trzech muszkieterów". 9.25 „Przypominamy, radzimy". 9.35 „Młodość Lincolna" — film fab. USA. 11.05 „Sezam muzyczny" — „Kalina" — opera A. Szeluty. 12.05 Dziennik. 12.15 PKF. 12.25 „Spotkania z przyrodą". 12.55 „Przemiany". 13.25 Teatr Młodego Widza: „Brygidka i chłopcy" odc. III („Banda Rudego"). 14.05 Program filmowy. 15.15 „Ukochany kraj, umiłowany kraj" — teleturniej. 15.50 „Polacy na frontach II Wojny Światowej" — film dok. pol. (odc. III). 16.10 „Kamera 68". 16.25 Sprawozdanie z Międzynarodowych Zawodów Lekkoatletycznych i Mistrzostwo Polski. 18.00 Teatr Komedii Współczesnej: M. Domański — „Kobieta w trudnej sytuacji". 19.00 „Ludzie i zdarzenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przedstawiamy". 20.50 „Muzyka lekka nad morzem" (Bukareszt). 21.20 „SOS Titanic" — film fab. ang. 23.20 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 16 września**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.15 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.50 Dziennik. 17.00 Kino „Ptyś". 17.20 „Pan Półka i spółka". 17.40 „Tramp". 18.00 „Weselne gody" — film TV radz. 18.20 „Próby". 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Z. Nałkowska — „Dom kobiet". 21.25 „Klaps". 21.55 Dziennik.

**WTOREK, 17 września**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — W. Szekspir „Romeo i Julia". 9.30 Przerwa. 10.00 Dla szkół: (kl. IV) Język polski — „W stolicy". 10.20 „Upiór z Morisville" — film fab. CSRS. 12.00 Dla szkół: (kl. II i III) „Na ulicach i drogach". 12.30 i 15.10 Przysposobienie Rolnicze: „Procesy biochemiczne zachodzące w czasie przechowywania zbóż, owoców i ziemniaków". 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.50 Dziennik. 17.00 „Klub pod Smokiem" — „Czym dawniej leczono". 17.30 „Nie tylko dla pań". 17.50 TV Kurier Warszawski. 18.05 „7 milionów młodych". 18.20 „Definicje" — teleturniej. 18.50 Program Redakcji Międzynarodowej. 19.00 „Araukarie szumią po polsku" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Koncert muzyki kameralnej. 20.35 „Pierwszy stopień wtajemniczenia" — program Red. Młodzieżowej. 21.05 „Upiór z Morisville" — film fab. CSRS. 22.35 Dziennik.

**SRODA, 18 września.**

10.00 „Kuba w ogniu" — film dok. kub. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Miary". 12.25 Przerwa. 13.25 Matematyka w szkole: „Wprowadzenie w arytmetykę liczb rzeczywistych". 13.55 Przerwa. 15.10 Program dnia. 15.15 Koncert Orkiestry Rozrywkowej Studentów Uniwersytetu w Moskwie. (Moskwa). 16.00 i 23.05 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 17.00 Dziennik. 17.10 Dla dzieci: „Z przygodą na ty" — film tv. 17.25 PKF. 17.35 „Z drugiej strony szklanego ekranu". 17.50 „Wariacje na temat smoka" — film węg. 18.05 „Z psem na łowy" — rep. TV radz. 18.20 „Kronika 50-lecia Kraju Rad — rok 1923". 18.50 „Projektantów bieg z przeszkodami". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Pułapka" — film („Alfred Hitchcock przedstawia"). 20.55 „Światowid". 21.25 Studio Współczesne: W. Terlecki — — „Późna rozmowa". 22.15 Magazyn Medyczny. 22.45 Dziennik.

**CZWARTEK, 19 września**

9.40 „Przygoda na szosie" — film fab. NRD. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Na polach Grunwaldu". 11.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.50 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 16.20 i 23.25 Politechnika TV I roku. Chemia. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: W. Gubariew — „Na bezludnej wyspie". 17.45 „Pod znakiem jakości". 18.25 „Spotkanie z Odessą" — film Tele-Aru. 18.40 „Przegląd muzyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Trybuna Telewizyjna. 20.40 „W zamkniętym kręgu" — film fab. USA. 22.00 Program publ. 22.30 Dziennik.

**PIĄTEK, 20 września**

9.30 „Kobiety" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — „W Komitecie Blokowym". 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcia techniczne — „Praca potokowa w szkole i w fabryce". 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.50 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce". 17.15 „Magazyn Postępu Rolniczego". 17.45 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 „Sylwetka karykaturzysty". 18.15 „Za kierownicą". 18.45 „Śladami filmowej przygody" — film CSRS. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Czwarta zmiana". 20.40 „Kobiety" — film fab. radz. 22.10 „Pejzaże". 22.40 Dziennik.

**SOBOTA, 21 września**

9.30 „Umrzeć w Madrycie" — film dok. franc. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Kształt ziemi". 11.25 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.25 Progr. tygodnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „Dla każdego coś miłego". 17.45 „Gawędy wilków morskich". 18.00 „Świat, który nie może zginąć". 18.30 „Warszawa, ja i Ty". 19.00 „Rozmowy o książkach". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „Pegaz". 20.55 XII Międzynarodowy Festiwal Muzyki Współczesnej — „Warszawska Jesień" — koncert inauguracyjny. 21.50 Dziennik. 22.05 Wiadomości sportowe. 22.15 „Zagubione kroki" — film fab. franc.




**Piątek, 13 września**

7.30 Dla uczniów. 8.00 „Burza". Film. 15.00 „Nowości". 15.10 Program dnia. 15.15 „Ulice nieśmiertelności". Film. 15.35 Film muzyczny. 16.00 Dla dzieci. 16.20 Film animowany dla dzieci. 16.30 „5+2". 17.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Mińsk) — „Spartak" (Moskwa). 18.45 „Sztafeta nowości". 19.45 Film fabularny. 21.20 „Nasza poczta". 21.30 „Tylko fakty".

**Sobota, 14 września**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla uczniów szkół technicznych. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dziennik. 8.00 „W dniu imienin". 8.30 Reportaż sobotni". 9.00 „Dzieci kapitana Granta". Film fabularny. 10.30 „Szkatułka muzyczna". 10.50 Reportaż o lesie. 11.30 Festiwal filmów poświęcony 50-leciu BSRR. 11.50 Film animowany dla dzieci. 12.30 „Czarodziej w brygadzie". Film fabularny. 14.00 TV barwna. 15.30 Klub Filmowy. 16.30 „Poczta Płomyka". 17.30 „Czas". 18.00 Spektakl teatru komedii muzycznej z Leningradu.

**Niedziela, 15 września**

6.25 Program dnia. 6.30 Dla uczniów szkół technicznych. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik". 8.00 TV kalendarz. 8.30 Festiwal filmów poświęcony 50-leciu BSRR. 10.15 Historia igrzysk olimpijskich. 10.50 Film animowany dla dzieci. 11.00 Dla uczniów. 11.30 „Atlas narodów ZSRR" (Kazachstan). 12.30 „Kiosk muzyczny". 13.00 Hokej. CSKA — „Spartak" (Moskwa). 15.15 Nasze wywiady. 15.45 Koncert życzeń. 16.15 „Siedem dni". 17.10 Mistrzowie sztuki. I. Smoktunowski. 18.40 TV barwna. 20.10 Koncert życzeń. 21.00 „Tylko fakty".

НАД ПАРТЫЙНЫМІ ТЭЗІСАМІ

# ДРУЖБА

Стварэнне Народнай Польшчы — вынік разгрому Савецкім Саюзам гітлераўскай Германіі ў гады II сусветнай вайны, вынік слаўнай барацьбы польскага народа за сваё вызваленне. Польскія працоўныя неаднаразова ўзнімаліся на барацьбу супраць знешніх і ўнутраных прыгнятальнікаў, але, перш чым узяла верх доўгачаканая перамога, яны перажылі шмат трагічных выпрабаванняў, самым цяжкім з якіх была агрэсія германскага фашызму.

Захапіўшы Польшчу, гітлераўцы ўстанавілі на нашай зямлі крывавы акупацыйны рэжым, люта прыгняталі і грабілі польскі народ, вывозілі насельніцтва на катаржную працу ў Германію, ажыццяўлялі яго непасрэднае фізічнае знішчэнне. За гады вайны загінула звыш 6 мільёнаў асоб, г.зн. 22 працэнты насельніцтва Польшчы, а матэрыяльныя шкоды склалі 38 працэнтаў усяго нацыянальнага багацця краіны.

Аднак свабодалюбівы польскі народ, нягледзячы на жорсткі тэрор фашысцкіх прыгнятальнікаў, узняўся на вызваленчую вайну. Пасля вераломнага нападзення гітлераўскай Германіі на СССР прагрэсіўныя сілы польскага народа аб'ядналіся з народамі Савецкага Саюза ў супольнай барацьбе супраць нямецка-фашысцкага зняволення.

Вялізарнае значэнне для развіцця польскага рабочага руху і вызваленчай барацьбы працоўных мела стварэнне ў 1942 годзе Польскай рабочай партыі. Пабудавана на гранітным фундаменце марксізма-ленінізма, яна працягвала слаўныя традыцыі польскага рэвалюцыйнага рабочага руху.

ППР выхоўвала працоўных у духу дружбы з народамі Савецкага Саюза, прыдаючы гэтай дружбе рашучае значэнне ў вызваленні Польшчы.

ППР аб'яднала ўсе дэмакратычныя сілы польскага народа на чале з рабочым класам у нацыянальным фронце барацьбы за свабодную і незалежную Польшчу, спалучыла нацыянальна-вызваленчую барацьбу супраць фашысцкіх акупантаў з барацьбой за сацыяльнае вызваленне, за заваяванне ўлады працоўнымі.

Палітычнай думцы і праграме ППР і ўсяму лагеру польскай дэмакратыі сілы рэакцыі, прадстаўленыя эміграцкім урадам, проціпастаўлялі «Тэорыю» двух ворагаў, шалёную нянавісць да СССР. Польскі народ праявіў палітычную мудрасць, не паслухаўшыся рэакцыі ў самы пераломны момант сваёй гісторыі, узяўшы прыклад з рабочага класа і яго партыі.

Народная Польшча будуе сацыялізм у братэрскай сям'і з сацыялістычнымі краінамі.

У тэзісах ЦК ПАРП на V з'езд партыі гаворыцца: «Адзінства і супрацоўніцтва сацыялістычных краін, абапертае на супольнасці ідэалогіі і мэт, на асновах роўнасці і ўшанавання суверэнітэту, з'яўляецца класавым саюзам, які з'яўляецца прадпасылкай далейшага развіцця сацыялізма на свеце. Рэалізацыя гэтага адзінства ў супольным дзеянні памнажае сілы сацыялістычнай супольнасці і кожнай дзяржавы, уваходзячай у яе склад і стварае найлепшыя гарантыі іх мірнага развіцця».

Гэтыя новыя ўзаемаадносіны паміж ПНР і іншымі краінамі сацыялістычнай сістэмы з'яўляюцца ажыццяўленнем бессмяротных ленінскіх ідэй аб дружбе свабодных раўнапраўных народаў, уяўляюць сабою вялікае заваяванне працоўных Польшчы і іншых сацыялістычных краін.

У ходзе будаўніцтва сацыялістычнага грамадства ўзнікае нямала складаных праблем, вырашэнне якіх патрабуе аб'яднання намаганняў брацкіх народаў. Вопыт, набыты на працягу дзесяцігоддзяў, пераканаўча паказвае, што разнастайныя задачы сацыялістычнага будаўніцтва ў сучасных умовах нельга вырашаць у адзіночку.

Ворагі сацыялізма спрабавалі і спрабуюць пасеяць нелады паміж брацкімі краінамі і тым самым падарваць магутнасць сацыялістычнай садружнасці. Гэтыя падкопы асабліва актывізаваліся ў апошні час. Буржуазны друк перапоўнены самымі злоснымі і зларадными «прароцтвамі». Іх разлікі застануцца ў сферы нязбытых мар. Дружба і адзінства брацкіх народаў адпавядаюць жыццёвым інтарэсам кожнай краіны сацыялізма і ўсёй сацыялістычнай садружнасці. Гэта ідэя глыбока запала ў розумы і сэрцы народаў нашых краін.

Г.В.




**Адкрываем новы аддзел. Будзем у ім змяшчаць навінкі з беларускай літаратуры. Матэрыял гэты ў першую чаргу прадназначаны для школ, у якіх навучаецца беларуская мова. Думаем таксама, што ён будзе карысны і для іншых чытачоў. Па меры магчымасці, будзем тут змяшчаць і кароткія звесткі пра аўтараў. Просім дасылаць свае заўвагі, якія памогуць нам лепш рэдагаваць нашае новае пачынанне.**

## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ



Ларыса Геніюш нарадзілася пад Ваўкавыскам, у вёсцы Гудзевічы, у 1910 годзе. Маленства і дзявочыя гады правяла на Гродзеншчыне. У трыццатыя гады выехала ў Прагу. Там у 1942 годзе і выйшаў яе першы зборнік «Ад родных ніў». З 1956 г. Ларыса Геніюш жыве на роднай Гродзеншчыне, у Зельве. У 1967 г. у Мінску выйшаў яе другі паэтычны зборнік «Невадам з Нёмана». Паэтэса з асаблівай сілай піша аб любві да роднага краю, яго мовы і традыцый. Гэтыя вершы ўзялі мы з сёлеташняга жніўеньскага нумара «Полымя». Раім таксама звярнуць увагу на яе верш, які мы друкавалі ў мінулым тыдні.

### ТОРБАЧКА

Выпраўлялі ў дарогу
дзяды нашых бацькоў,
кожны з торбачкай, з богам
з роднай хаты ішоў.

А ў той торбе бывала
ўсё: сухенькі сырок,
ды кавалачак сала
ці каўбаскі вянок,

і яечка ў паперы,
цёплай бондачкі круг,
хлеб, прапахлы аерам,
з любых матчыных рук.

О шляхі і дароті,
ў полі ціхі папас,
перамералі ногі
вашу далеч не раз...

Мінавала сутонне —
болей не ў пасталах
йдуць сыны нашы сёння
на асфальтавы шлях.

Гарадоў панарама
вабіць за небакрай.
А ўсё чуецца: — Мама,
з сабой торбачку дай.

Палажы нам у вырай
подых роднай зямлі,
нашу сціпласць і шчырасць
ў абыходзе з людзьмі,

і тугі вераценца,
што начамі звіла,
мову родную з сэрца,
нашы песні з сяла,

сілы бацькавай крыху
і павагі людской,
гэтай любасці ціхай,
што завеш дабратой.

Дай адвагу у грудзі,
смелы ўзлёт, слаўны чын,
хай жа ведаюць людзі,
скуль я, маці, і чый!

### ВАЙНА
(1941)

Крутавата цягнецца дарога,
лес абапал — цёмнаю сцяной.
Тупкай сцежкі ледзь кранущца ногі —
маладосць іх носіць над зямлёй.
Ззяе братаў твар, амаль дзяціны.
Я і ён. І ноч. І родны край,
і свае да болю каляіны,
а на хмарцы — месяц-каравай.

Хуценька спяшаемся дахаты,
не паспелі выйсці завідна.
«Чуеш, у газетах... зноў гарматы...
вечна людзям трызніцца вайна».

«Ах вайна, зусім старая басня,
для дзядуляў... Нам жа жыць і жыць,
перад намі — свет шырокі насцеж —
сто дарог у далечы бяжыць!..»

Цішыня, ніхто ў сяле не свеціць.
Гасне зоракператлелы жар.
Выграбае мітуслівы вецер
бохан-месяц з чорнай печы хмар.

Мы ідзём, бадзёрым словам звонім
войнам, страху, цемрадзі на злосць.
Не заступіць гора, не дагоніць
у жытнёвым полі маладосць!

А вайна ля межаў гаманіла,
азвярэлая, варожая жывым.
Засталіся попел ды магілы
ды ўспаміны, бы ахвярны дым.

Спамінаю і крычу ад болю:
— Свайго сына не аддам вайне.
О зямля мая, няхай вайна ніколі
маладосць у полі не сажне!

### ДАМОЎ

Дамоў — на масточак калінавы
рванеш і адразу гатоў
падняцца, бадай, па-буслінаму
клякочучы песні дзядоў.

Дамоў — гэта сэрцам да сэрца,
дабрыдзень, мая маладосць!
На волі акрылець, сагрэцца
і словам сагрэць кагосьць!

Дамоў — гэта хлеба акраец як мёд,
падушка як пух лебядзіны,
бацькі дарагія, магілы і род,
зямлі свае подых глыбінны.

# НАПРЫКЛАД ЛОМЖА

У сувязі з набліжэннем 25-ай гадавіны вызвалення Беластока, Гайнаўкі, Бельска, Саколкі і іншых гарадоў усходняй Беласточчыны, а таксама ўстанаўлення народнай улады, варта ўжо цяпер прыгадаць прыклады саліднага адзначэння знамянальнага юбілею, прыпадаючага на наступны, 1969 год. Маю тут на ўвазе патрабуючую часу выдавецкую дзейнасць, прыкладам якой з'яўляецца „Zarys gospodarczy powiatu łomżyńskiego", Андрэя Барвіюка і Генрыка Маецкага. Гэта ўсебакова апрацаваная кніжка, якая налічвае каля 250 старонак, добра падрыхтаваная тэхнічным рэдактарам Аляксеем Каздом. У ёй поўная інфармацыя аб дасягненнях народнай улады ў Ломжынскім павеце.

Кніжка выпушчана Люблінскім выдавецтвам па заказу Павятовай рады ў Ломжы — у гонар 20-ай гадавіны вызвалення Ломжыншчыны часцямі Савецкай Арміі. За такую ініцыятыву Ломжынскай Павятовай рады належыцца ёй толькі словы пахвалы. (ся)

(Працяг са стар. 1)

# ЭКСКУРСІЯ

Экскурсанты БГКТ апрача лагераў смерці пабачылі вельмі для іх цікавыя мясцовасці. Да іх належыць Ойцуў, Вялічка і Свентакшыскі парк нарадовы. Аграмадныя падземныя пячоры (Ойцуў), камяністыя горы (Свентакшыскі парк), падземныя калідоры пад горадам Вялічка і аграмадныя каморы, у якіх калісьці выдабывалі соль, а таксама шмат скульптур і капліц з солі (Вялічка) аставілі на ўдзельніках экскурсіі незабыўныя ўражанні.

Таксама цікава было ўсім пабачыць гістарычныя помнікі Кракава, як Вавэль з магіламі каралёў, касцёл Марыяцкі са сваім штодзённым гейналам і алтаром Віта Ствоша, Сукенніцы, Стары Рынак і т.д.

У Кялецкім ваяводстве наведалі мы таксама музей Генрыка Сянкевіча ў Абленгорку, легендарны 1200-гадовы дуб «Бартэк» каля Загнайска, якога акружнасць мае 13,4 метра.

З Кялеччыны вярнуліся мы дамоў. Уражанні, якія атрымалі мы ў час экскурсіі, доўга застануцца ў нашай памяці.

**Міхась Хмялеўскі**



**Памятны здымак каля скалы ў Айцове непадалёк пячоры Лакетка.**

## БЕЛАРУСІЯНА

Пад такім загалоўкам Тадэуш Станіслаў Грабоўскі змясціў у часопісе «Літаратурны рух» («Ruch literacki»), № 4, 1968 г. рэцэнзію на пяты і шосты тамы збору беларускай вуснай народнай творчасці «Люд беларускі» Міхала Федароўскага. Прыхіляючыся да думкі прафесара Станіслава Панятоўскага, выказанай у прадмове да чацвёртага тома гэтага капітальнага выдання, што М. Федароўскі «хацеў зрабіць для беларускай навукі аб народзе нешта больш, чым зрабіў Кольберг сваім «Людам Польскім» для польскай навукі аб народзе», Т. С. Грабоўскі сцвярджае, што вялікі польска-беларускі этнограф поўнасцю здзейсніў свае мары, пакінуўшы пасля сябе «зборы, якім няма цаны».

У рэцэнзіі Т. С. Грабоўскі высока ацэньвае плённыя намаганні праф. А. Абрэмбскай-Яблонскай у справе навуковай сістэматызацыі і выданні каштоўнай спадчыны па М. Федароўскім і выказвае пры натодзе шэраг сваіх назіранняў.

«Так мала мы ведаем пра сённяшніх беларусаў з гэтага і таго боку нашай усходняй граніцы, — піша ва ўступе да рэцэнзіі Т. С. Грабоўскі. — А нашыя ж традыцыі з часоў першай і другой Рэчыпаспалітай як жа ж моцна вяжуцца з палітычнымі, гаспадарчымі і культурнымі падзеямі Белай Русі. Дастаткова звярнуцца хаця б да найбліжэйшай і найдаражэйшай польскаму сэрцу эпохі Міцкевіча, каб на кожным кроку натыкацца на мінулае беларускай зямлі і яе ўбогі і занядбаны народ, як і недалёка адышоўшую ад таго ж народу ў абрадах, звычаях і сваёй культуры, т.н. лапцюжную шляхту.

І сёння яшчэ — паводле апошніх дадзеных статыстыкі — Народная Польшча змяшчае ў сваіх усходніх ваколіцах не болей і не меней, толькі 165 тысяч жыхараў беларускага паходжання з поўнай частковай нацыянальнай свядомасцю, нават нягледзячы на тое, ці хто з іх прызнаецца да якогаколечы з рэлігійных вераванняў каталіцкага, уніяцкага ці праваслаўнага. А ёсць і такія, што з татараў выводзяцца і з'яўляюцца нашчадкамі паклоннікаў Магамета. Гэта бязмерна цікавыя і скамплікаваныя падзеі паходжання, лёсу і сённяшняй грамадскай ролі пражываючых у Польшчы беларусаў. Таму варта сёння задумацца бліжэй над іх жыццём і творчасцю...»

# „БЕЛАРУСЬ СПЯВАЕ“

Беларускую вусную народную творчасць, сабраную М. Федароўскім і апублікаваную ў «Людзе беларускім», Т. С. Грабоўскі характарызуе як «...з'яву незвычайную, захапляючую памерамі і зместам. Адкрывае (яна) так жыва і відавочна багацейшую паэтычна-артыстычную творчасць беларускага народа, па сённяшні дзень яшчэ для польскай грамадскасці чужую, далёкую і амаль няведамую.

Гэтае выключнае багацце песень і мелодый у Белай Русі бясспрэчна даказвае, як пявучай была беларуская вёска нават у часах няволі і прыгнёту. Таму нічога дзіўнага, калі сёння, у дні свабоды і раўнапраўя, беларускі народ не спыняе свае творчасці, а яго песня гучыць над маляўнічымі раздоллямі палёў па-над Супраслю, Бебжай і Свіслаччу».

У заканчэнні свае глыбокай і добразычлівай рэцэнзіі Т.С. Грабоўскі піша: «Вельмі пажаданым было б, каб нашыя вясковыя і гарадскія мастацкія калектывы звярнуліся да гэтай скарбніцы беларускай народнай паэзіі і песні. Колькі б унеслі яны свежасці, прастаты і свойскай прыгажосці».

(мг)




### ГІСТОРЫЯ

**Jerzy Strzelczyk.** Po tamtej stronie Odry. Dzieje i upadek Słowian Połabskich. Warszawa, 1958, KIW. Cena zł 10,00.

Maria Składanek, Bogdan Składanek. Wyprawy krzyżowe. W-wa, 1968, KIW. Cena zł 10,00.

Zofia Libiszowska. Król Słońce i jego czasy. Warszawa 1968. KIW zł 10,00.

Аб розных эпохах расказваюць новыя тры томікі Бібліятэкі «Святовіда». Першы прыпамінае чытачу славянскія плямёны, якія жылі некалі на захад ад Одры. Гэта перш за ўсё Абадрыты і Вялеты. Зваліся палабскімі славянамі і жылі на сваіх землях спрадвеку. Ваяўнічыя германскія плямёны знішчылі дашчэнту палабскіх славян.

Другі том расказвае пра вялікія рэлігійна-вайсковыя рухі XIII стаг. у Еўропе, калі па закліку папы рушылі так званыя «крыжовыя паходы» на ўсход, нібы для вызвалення Іерусаліма ад мусульман. Крыжаносцы знішчылі ўсходне-хрысціянскую культуру Візантыі і цвітучую культуру мусульман.

Трэці том прадстаўляе нам Людвіка XIV — вялікага французскага караля, які стварыў магутнасць сярэдневяковай Францыі. Эпоха Людвіка XIV, яе вобраз і жыццё цікава прадстаўляе нам кніжачка.

### ПАЛІТЫКА

**Alfred Liebfeld.** Franklin Delano Roosevelt. W-wa, 1968. Cena zł 30.00

Франклін Дэляна Рузвельт — постаць цікавая. Доўгагадовы прэзідэнт ЗША, з вялікім аўтарытэтам у сваёй краіне і на свеце. Многа вестак аб Рузвельце ў кніжцы, якіх дагэтуль не зналі.

### ВАЙСКОВЫЯ

**Henryk Michalski.** Pierwsze 100 godzin wojny nuklearnej. Warszawa, 1967. MON. Cena zł 25.00.

Малады вайсковы вучоны, адзін са здальнейшых гісторыкаў вайсковай навукі ў Польшчы, аналізуе перш за ўсё палітычныя прычыны выбуху такой вайны, часта на канкрэтных прыкладах. Пунктам выйсця для такога аналізу служыць акрэсленне акалічнасцей, у якіх можа дайсці да збройнага канфлікту паміж агрэсіўным НАТО і абаронным Пактам Варшаўскім.

### ПРОЗА

**Nevil Shute:** Ostatni brzeg. Tłum. z ang. Z. Kierszyc. Warszawa, 1968. KIW. Cena zł 23.00.

Тэме ядзернай вайны прысвечана і гэтая кніжка, ужо літаратурнага характару. Карціна такой вайны прыгнятаючая і адстрашаючая. Пустыя гарады Аўстраліі, у якіх замерла ўсё жыццё, бо прайшоў над імі пояс радыёактыўнага праменявання з-над Еўропы, дзе ў ваенным канфлікце прыменена атамную бомбу. Кніжка вельмі моцна пратэстуе супраць вайны.

(вл)

# АБ КАНЦЭРЦЕ, ІНТЭРНАЦЕ І ІНШЫХ СПРАВАХ

**(З ПАСЯДЖЭННЯ ПРАЎЛЕННЯ БЕЛЬСКАГА АДДЗЕЛА БГКТ)**

Пасяджэнне пачалося амаль пунктуальна, бо толькі з паўгадзінным апазненнем. З 14 членаў, прысутнічала на пасяджэнні 9. Кароткая павестка дня ператварылася ў ходзе нарады на вельмі аб'ёмістую, бо знайшлося ў ёй аж 12 пунктаў.

У кароткай справаздачы інструктар аддзела Ян Шурбак сцвердзіў, што ў сувязі з палявымі работамі актыўнасць гурткоў і самога аддзела звольніла тэмпы. Дрэнна праходзіць збор складчын, на 46 гурткоў павета толькі 14 маюць больш-менш дзейныя калектывы мастацкай самадзейнасці. Адведанне гурткоў працаўнікамі праўлення было недастатковым па прычыне хваробы і водпуску інструктара аддзела.

Пастаноўлена правесці агляд калектываў мастацкай самадзейнасці Бельскага аддзела — 3.XI.1968 г., акадэміі ў Малінніках і Орлі — 19.X. і 9.XI. г.г. Да канца года даць чатыры канцэрты бельскага хору; 22 вечары, прысвечаныя гадавінам КПЗБ і КПП; 36 гутарак у дні высвятлення кінакарцін; 10 аўтарскіх сустрэч; 20 канцэртаў «Лявонісі».

Пастаўлена задача актывізаваць збор ахвяр на будову беларускага (рэгіянальнага) музея ў Белавежы.

Асабліва гарачая дыскусія разгарэлася ў справе будовы інтэрната для школьнай моладзі беларускага ліцэя. Былы дырэктар ліцэя Яраслаў Кастыцэвіч расказаў, якія былі роблены захады, каб даць магчымасць здалёк прыбываючым вучням ліцэя нармальна жыць і вучыцца. Аднак па сённяшні дзень усе школы Бельска маюць свае інтэрнаты, акрамя беларускага ліцэя.

Праўленне забавязала старшыню аддзела неадкладна зрабіць захады ў павятовых органах і звярнулася з просьбай да сакратара Галоўнага праўлення БГКТ, каб закрануў справу інтэрнату ў ваяводскіх, а калі трэба і ў цэнтральных органах.

Звернута ўвагу на дрэнна пастаўлены збор складчын. Сумы гэтых складчын настолькі мізэрныя, што толькі неакуратнасцю можна тлумачыць іх несвоечасовы збор.

А. Ч.



**Калектыў акардэаністаў музычнальнага агніска ГС Міхалова (Беластоцкі пав.). Кіруе ім ад двух гадоў Францішак Бжостэк. Першая злева салістка Аля Савіцкая.** Фота: Я. Цялушэцкі

# Акцыя супраць польё прайшла ўдачна

У ваяводскай станцыі санэпіду адбылася прэсавая канферэнцыя, на якой дырэктар **Чэслаў Васілюк** падсумаваў акцыю прышчэпак супраць віруса польё (вірус Гайнэ-Медыны). У Беластоцкім ваяводстве акцыя гэта прайшла вельмі спраўна. Заслугі тут мелі вельмі многія людзі. Перш за ўсё спраўнасць арганізацыі сярод службы здароўя. Далей — рады нарадовыя ўсіх ступеней: ад старшыні ПВРН пачынаючы, які выслаў ліст да ўсіх старшынь павятовых рад нарадовых, да салтысоў у вёсках. Былі старшыні павятовых рад, напрыклад у Голдапе, Моньках і Сямяцічах, якія непасрэдна самі цікавіліся акцыяй.

У Гайнаўцы для прапаганды акцыі выкарыстаны былі магнітафоны на станцыі ПКП.

Многа памагала МО. І вынік: акцыя, у часе якой не высылалася імянных паведамленняў (што робіцца заўсёды), удалася. Прышчэплена 358.906 дзяцей. Мажлівасць грознай хваробы такім чынам была ліквідавана.

На Беласточчыне занатавана (яшчэ да акцыі прышчэпак) тры выпадкі захвор-ванняў на Гайнэ-Медыну, 1 на вёсцы, 2 у гарадах.

(вл)

# ПАДАРОЖНАЯ ЗАМАЛЁЎКА

Дом культуры «Гурнік» у Гайнаўцы вялікі, прыгожы будынак з мноствам пакояў і вялікай кіназалай. Заняў месца ў ціхім зялёным кутку горада. Летам ішоў тут частковы рамонт.

Неяк падвосеньскім днём зайшла я ў «Гурнік». Яшчэ адчуваўся настрой лета і водпускаў. Пуста, спакойна. На пастарунку (былі гадзіны падвячорныя) застала **Яніну Лесяк** — бібліятэкаршу і намесніка кіраўніка дома культуры «Гурнік». Гэтая мілая пані працуе ў культуры ўжо 23 гады. Цяпер яе закладовая бібліятэка мае больш 50% чытачоў сярод працаўнікоў Прадпрыемства сухой дэстыляцыі дрэва ў Гайнаўцы.

Заглянулі мы ў памяшканне новай кавярні, дзе ўсё свежае і чыстае чакае на гасцей. Заглянулі ў пакоі павятовай культурна-асветнай парадні, дзе інструктар Уля — сімпатычная дзяўчына, раз-два пачаставала нас кавай. Падлогі ўсюды вылажаныя слаўнай гайнаўскай клепкай (паркетам), яснай, а па ёй шлякі з клепкі маганёвай. Гэта ўжо падарунак дырэктара Дабжанскага з Прадпрыемства сухой дэстыляцыі дрэва ў Гайнаўцы — вядомага прыхільніка гайнаўскай культуры.

(вл)



**Паштоўка з зубава.**

Фота: А. Карпюк

# Пахвала Беларускаму ліцэю ў Бельску

(Працяг са стар. 1)

акадэмію, набраў 39 пунктаў на 41 магчымы, Анатоль Гіжэўскі — на Вайсковую медыцынскую акадэмію ў Лодзі, Анна Емельянюк з Пасынак — на рускую філалогію, Марыя Кужэль з Бельска (ад першага класа вучаніца беларускай школы) на ўніверсітэцкую фізіку ў Торуні, Юрка Маркевіч на электрычны аддзел Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку, Лідзія Орда з Міклашоў — на ўніверсітэцкую матэматыку ў Любліне. (Была так добрай, што экзаменацыйная камісія адразу сказала ёй аб прыняцці.).

Дыр. Мікалай Гайдук заканчвае размову: быў гэта добры клас, з ім можна было працаваць.

Фактычна, працавалі з XI класам педагогі ліцэя. Дадатковыя заняткі, 2 разы ў тыдзень, вялі фізік, матэматык, філолаг праз увесь год.

Падрыхтоўка і праца расцвіла прыгожай кветкай, што яшчэ раз пацвярджае значэнне працы.

(вл)

 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ДАЦЬ ДАРОГУ ТЭХНІЧНАМУ ПРАГРЭСУ

З'яўляюся рамеснікам. У сваёй прафесіі працую ўжо 20 гадоў. Займаюся аднаўленнем гумовых шынаў. Абсталяванні, якімі карыстаемся, вельмі каштоўныя, у асаблівасці паравы кацёл. Да агравання яго трэба многа вугля. Працуючы пры дапамозе гэтых абсталяванняў я спальваў у год 9 тон коксу і 12 тон вугля, што каштавала мяне каля 20 тысяч злотых.

Кошты і складанасць абсталяванняў, якімі карыстаюцца рамеснікі ва ўсёй краіне, прымусілі мяне да пошукаў іншай тэхнічнай развязкі. Удалося мне збудаваць абсталяванні на электрычны ток — простае ў абслузе, таннае, займае мала месца.

Найважнейшае аднак, што абсталяванне гэтае дае вялікія ашчаднасці — каля 20 тысяч злотых у год. У сувязі з тым, што ва ўсёй Польшчы маем каля 10 тысяч такіх прадпрыемстваў, ашчаднасці ў маштабе краіны асягнулі б пры застасаванні майго абсталявання суму 200 мільёнаў злотых у год, а можа нават і яшчэ вышэйшую. Ашчаднасць вугалю аднак гэта не ўсё. Старое абсталяванне да рамонту гумовых шынаў каштуе каля 100 тысяч злотых, на будову яго ідзе звыш тоны высокаякаснай сталі. Будова майго абсталявання каштуе каля 1500 злотых, патрэба на яго толькі 50 кілаграмаў сталі горшай якасці. Пры старой тэхніцы кошт рамонту адной шыны — 11 злотых, у мяне — усяго 90 грошы, час рамонту — у першым выпадку 5 гадзін, у другім — усяго паўтары гадзіны. Чаму ж тады не прымяніць новай тэхнікі ў як найшырэйшых маштабах?

Вось менавіта: чаму? Сваю вынаходку згодна з прынятым у нас парадкам склаў я ў патэнтнае бюро 15 красавіка 1965 года. План і тэхнічнае апісанне вынаходкі, якое запатрабавала патэнтнае бюро, каштаваў мяне 4000 злотых, затым 250 злотых трэба было ўплаціць у бюро. І на гэтым скончылася. Ідзе ўжо чацвёрты год, а патэнту няма і няма. Калі я хадзіў асабіста ў патэнтнае бюро, мне адказалі: «Што вы так спяшаецеся? У нас справы ляжаць па шэсць гадоў, а вы б хацелі адразу». Дзіўна. Пасля чатырох гадоў мая вынаходка для мяне самога сталася ўжо неактуальнай. Яна ўжо ўстарэлая. Зрабіў я абсталяванне новае, значна лепшае, у патэнтнае бюро аднак складаць яго не буду. Няма сэнсу выдаваць грошай на звязаныя з гэтым кошты.

А сваёю дарогаю дзіўна мне слухаць, калі гаворыцца аб неабходнасці ашчаднасці вугалю, за які атрымліваем мы за мяжою дэвізы, ды аб неабходнасці даць шырэйшую дарогу тэхнічнаму прагрэсу. Гаварыць, гэта яшчэ мала, трэба стварыць тэхнічнаму прагрэсу сапраўдныя магчымасці развіцця.

**Ян Палоцкі**
Міхалова

**Дарагое Сэрцайка!**

Пазнаёмілася я з ім на працы (працавалі мы разам у адным прадпрыемстве). Калі меў звольніцца з працы з нашага прадпрыемства, звярнуўся да мяне, каб я пазычыла яму грошай. І я яму пазычыла. Потым я выехала на курс, а калі прыехала, даведалася, што ён сябруе з маёй сяброўкай. Аднак пазваніў да мяне і мы ўмовіліся. Ад таго часу ён часта мяне наведваў. Лічыла я яго проста сябрам. Пасля нейкага часу я зразумела, што ён з'яўляецца мне больш, чым сябрам. Я выязджала да бацькоў, а калі прыехала, даведалася, што ён надалей ходзіць з той жа самай сяброўкай. Мне было вельмі цяжка. Пасля нейкага часу аднак ізноў прыйшоў да мяне. Тады я сказала яму, што брыдка паступае і што я не маленькая дзяўчынка, якой можна круціць галаву. Абяцаў, што пойдзе вучыцца, таму мо і я задумала ісці ў вышэйшую школу. І дасталася. А ён нават не прыступіў да экзамену. Вельмі я з таго задаволена, бо маю таксама ўмовы да навукі (маю сваё памяшканне, мэблю). Цяпер ён прапануе мне жаніцца. Я зразумела, што яму верыць нельга. Таму я не згадзілася, сказала, што бацькі мне не




дазваляюць. Ведаю, што мае многа даўгоў, бо нават і мне не звярнуў грошай. Ён адышоў ад мяне. Аднак на гэты раз я ўжо не так цяжка перажывала, мо таму, што занята навукай? Не магу сабе даравaць, што я яму верыла. Цяпер не ведаю, што рабіць, ці пазваніць да яго і сказаць, каб аддаў мне грошы, якія пазычыў ужо даўно. Ведаю, што ходзіць з іншай дзяўчынай, а мо ўжо і жанаты.

Ліза з Беласточчыны

**Дарагая Ліза!**

Вельмі добра, што занялася ты навукай і лёгка перанесла «страту» свайго нарачонага. Гэта сапраўды не страта, бо з лісту відаць, што гэта не вялікай вартасці чалавек, таму ты павінна цешыцца, што ён адыйшоў ад цябе і ты спакойна можаш прадаўжаць сваю навуку. А па грошы ты напэўна павінна да яго звярнуцца, бо чаму ж маеш іх даравaць? Проста пазвані да яго на работу і скажы, каб аддаў доўг, на які ты і так ужо доўга чакала. Аднак глядзі, каб размова ваша была спакойнай і талковай.

Жадаю поспехаў у навуцы
**Сэрцайка**

## СВЯТА ПЛЁНУ Ў РЫБАКАХ



**На свяце ўраджаю ў Рыбаках.**

Павятовыя дажынкі ў Беластоцкім павеце адбыліся ў г.г. у Рыбаках над Нарвай.

З дакладам выступіў І сакратар ПК ПАРП у Беластоку тав. А. Камінскі. Многа ўвагі прысвяціў ён грамадскім чынам у сувязі з V з'ездам партыі, сельскай гаспадарцы Беластоцкага павета і сучаснай, міжнароднай сітуацыі. Грамадзяне Беластоцкага павета грамадскім чынам працавалі пры пабудове дарог, іх рамонце, пабудове святліц, школ і супрацьпажарных басейнаў. І так, пабудавана 20 км дарог Бялевічы—Падазяраны—Кухмы, а таксама праз вёскі Дабрынева Дужэ — Барсукоўку — Крыпна.

У чыне выпрацавана 12 млн. злотых. Школы пабудавана ў Баброваай, Саханях, Валілах Станцыі; разбудавана школы ў Сабалеве, Заблудаве, Баршчэве і Абрубніках. Закончана пабудову Дома культуры з рамізай у Новым Александрове. Удзел грамадзян — 4 млн зл.

Пасля афіцыйнай часткі выступілі вакальна-эстрадны калектыў з Пагажалак пад кіраўніцтвам Антона Шалкоўскага і калектыў з Міхалова пад кіраўніцтвам Францішка Бжостка.

У праграме іх былі сучасныя і народныя песні, слоўна-музычныя мантажы, скетчы і г.д. На месцы дажынак сарганізавана спартыўныя розыйгрышы і фантавую латарэю.

Удзельнікі свята ўраджаю мелі магчымасць купіць напіткі і марожанае. На месцы прадаваліся прадметы хатняга ўжытку, часткі да сельскагаспадарчых машын.

На месцы дажынак была выстаўка найлепшых сельскагаспадарчых пладоў, розныя паказальнікі росту ў сельскагаспадарчай галіне. М. інш. бульба Яцэнтага Данільчука з Трычоўкі, якой можна сабраць з га 250 цэнтнераў, кукуруза Юзэфа Дудзінскага — 700 цэнт. з гектара (Пагажалкі), пшаніца Канстанціна Храноўскага — 24 цэнт. з гектара, жыта з Рафалоўкі, жыта Вацлава Жэндзяна 22 ц. з га. з Жэндзян, буракі Станіслава Зэмбка — 600 цэнт. з гектара і іншыя.

Пасля спартыўных і мастацкіх мера прыемстваў адбылася людовая забава.



Сельскагаспадарчая выстаўка.

**Янка Цялушэцкі**
**фота аўтара**

## ПАРТЫЙНЫ СХОД

25 верасня г.г. у Фальварках Тыльвіцкіх адбыўся сход грамадскае партыйнае арганізацыі. На сход прыбыў інструктар ПК ПАРП тав. Мікола Стэпанюк і актывіст ПК Збігнеў Пагажэльскі. Сход вёў сакратар КГ тав. Міхась Барсоўскі.

Аб тэзісах ЦК ПАРП шырока гаварыў тав. Збігнеў Пагажэльскі. У дыскусіі выступіла 7 таварышаў, між інш. тав. Ніна Вазнеўская і М. Краўчук, якія гаварылі аб выхаваўчых справах. Гаварылася многа таксама аб справах сельскай гаспадаркі і працы сельскагаспадарчых гурткоў.

**Мікола Краўчук**
Патока

## СЕКЦЫЯ ВЕЛАГОНШЧЫКАЎ

У г. г. пры Павятовай радзе ЛьЗС у Гайнаўцы створана 10-асабовую секцыю велагоншчыкаў. Трэнерам з'яўляецца адзін з лепшых гайнаўскіх велагоншчыкаў, Павел Астапчук. Дагэтуль секцыя брала ўдзел у чатырох спаборніцтвах па велагонцы. Апошні раз на ўрачыстасці свята ўраджаю ў Новаберазове. Да найлепшых велагоншчыкаў належаць: Юрка Седунь, Раман Валкавыцкі, Яўгеній Паўлючук.

*

У Белавежы пачаліся рэгулярныя трэніроўкі ў Людовым спартыўным клубе (ЛьКС), прэзасам якога з'яўляецца інж. Эдмунд Ватола. ЛьКС падаў заяву аб удзеле ў розыгрышах па футболу ў Б класе.

Прэзідыум ГРН у Белавежы прызначыў 2 тыс. зл. на пакупку спартыўных прыладаў.

**Янка Цялушэцкі**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Дубіны**

„Gdy miłość przemija" (jugosł.), „Stajnia na Salwatorze" (polski), 21—22.

**Нараўка**

„Na pomoc" (angl.), „Katastrofa" (polski), 18—22.

**Нарва**

„Dywersanci" (jugosł.), „Pociąg pod specjalnym nadzorem" (czeski), 18—22.

**Чыжы**

„Męski piknik" (jugosł.), „Sami swoi" ( ), 18—22.

**Дубічы Царкоўныя**

„Człowiek bez paszportu" (radz.), „Gorące lato" (jugosł.), 18—22.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Bumerang" (polski), „Galia" (franc.), 18—22.

**Райск**

„10 małych Indian" (angl.), „Na frontach wojny domowej" (radz.), 18—22.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Przerwany lot" (polski), „Olbrzym" (radz.), 17—20.

**Міхалова**

„Miłość blondynki" (czeski), 17—18. „Spacer po linie" (angl.), 19—20. „Faraon" (polski), 21—22.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Czarny żwir" (NRF), 17—18. „Deszcz padał na szczęście" (czeski), 19—20. „Smog" (włoski), 21—22.

**Шудзялава**

„10 małych Indian" (angl.), „Ja twój syn" (węgierski), 18—22.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Intrygantki" (czeski), „Miałam 19 lat" (NRD), 18—22.

**Новы Двор**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 21—22.

**Ліпск**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 21—22.

**шэсць-сем асоб; давялося прывезці на пляж пад'ёмны кран. Але як не тарапіліся людзі, ім удалося выратаваць толькі сем кітоў, апошнія загінулі. Дасюль невядома, што прымусіла кітоў выкінуцца на бераг.**

Гэтае дзіўнае здарэнне адбылося, калі, па сцвярджэнню газеты, Абст быў ужо мёртвы. Хочацца верыць, што некралог у «Курір» не фальшывы і да гібелі стада кітоў Абст дачынення не мае.

Зрэшты, хто ведае! З нацыстамі часта здараюцца надзвычайныя пераўтварэнні. Вось гісторыя гітлераўскага лекара-псіхіятра прафесара Вернера Хейдэ. У гады вайны Хейдэ разам са сваімі калегамі знішчыў звыш дзвюхсот тысяч чалавек. Пасля капітуляцыі Германіі яго арыштавалі. Аднак, як сведчыць кніга пошукаў заходнегерманскай паліцыі, «Хейдэ Вернер... уцёк 25.VII.1947 года ў раёне Вюцбурга пры перавозцы вязняў».

Прыняўшы імя Завадэ ён дасканала жыў у адным з гарадоў зямлі Шлезвіг-Гольштэйн, выдаючы медыцынскія заключэнні судовым органам, пракуратуры.

Прычым праўда аб эксперце Завадэ была вядома ўсім у ФРГ, апрача толькі крымінальнай паліцыі...

Урэшце пад націскам грамадскасці «выявілі» і арыштавалі Хейдэ. Меўся адбыцца гучны працэс. Аднак да суда не дайшло. Як было аб'яўлена, напярэдадні працэса Вернер Хейдэ павесіўся ў сваёй камеры.

Дзіўнае самагубства! Тым больш дзіўнае, што за дзень да гэтага з восьмага паверха выпаў і забіўся лекар-псіхіятр Фрыдрых Тыльман, прыцягнуты да суда разам з Хейдэ.

Ці сапраўды яны загінулі? Ці сапраўды ўтапіўся Абст? У свой час таксама было аб'яўлена аб смерці шэфа гестапа Генрыха Мюлера. А потым высветлілася, што ў магіле Мюлера ляжыць іншы. Сам жа Мюлер і не думаў паміраць. Як паведамляе друк, ён шчасліва жыве ў Афрыцы. Але гэта ўжо не Мюлер, а... мусульманін Амін Рашад!

А ў Паўднёвай Амерыцы, як гавораць, знайшоўся след намесніка Гітлера па фашысцкай партыі — Марціна Бормана, таксама ў канцы вайны «пахаванага» гебельсаўскай прэсай.

На дзень заканчэння другой сусветнай вайны за межамі Германіі знаходзілася некалькі сот тысяч нацыстаў. Пераадзетыя, з фальшывымі дакументамі, грашыма, паролямі, адрасамі явак і сховішч, яны распаўзліся па свеце.

Адзін з такіх — любімец Гітлера, нацысцкі «дыверсант нумар адзін» Ота Скарцэні. Ён дасканала адчувае сябе ў Іспаніі.

Іншы гітлераўскі гадаванец — Вернер фон Браўн знайшоў прыпынак у ЗША. Тут ён галоўны ракетчык. Быццам не ён накіроўваў свае лятаючыя тарпеды на амерыканскія гарады!

Гледзячы на ўсё гэта, мацнеюць духам, робяцца ўсё больш нахабнымі тыя з гітлераўскіх недабіткаў, што да часу схаваліся ў шчыліны.

Фашысты вырашылі, што прытупілася памяць чалавецтва. Яны дзейнічаюць усё больш актыўна — аб'ядноўваюцца, вярбуюць прыхільнікаў, выпрабоўваюць сілы. Яны вераць, што прыдзе час, калі ўсё можна будзе пачаць аднова!

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 5727



 

# Усё будзе добра

Я стаў непадалёку ад свежай магілы і думаў, падысці мне да пажылога мужчыны са сваімі спачуваннямі ці не.

Прысланіўшыся да кіпарыса, я ўзважваў усё за і супраць. Трэба паспачуваць чалавеку, канечне, трэба, але што гэта яму дасць? Хіба я магу ўваскрасіць яго дзядзьку-нябожчыка. Словамі тут не паможаш. Аднак... — думкі не давалі мне спакою, — можа, яму ад гэтага будзе крыху лягчэй? Можа, яго парадуе сустрэча са мною? Можа, ён цяпер ні аб чым іншым і не марыць?

Я паглыбіўся ў зараснікі.

Штосьці не верыцца, што ён будзе рад. Хутчэй за ўсё ён наогул мяне не пазнае. А калі і пазнае, дык што я яму скажу. Пра што мне гаварыць з гэтым пажылым мужчынам? Сёння пахавалі яго дзядзьку, заўтра пахаваюць яго, паслязаўтра — мяне.

Цырымонія заканчвалася. Усе па чарзе падыходзілі і адыходзілі ад пажылога мужчыны. Знайшлі ў кустах і мяне.

— Дазвольце, — вымазіў я, прыўзняўшы капялюш.

— А, гэта вы? — узрадаваўся пажылы мужчына.

— Так, гэта я! — мне было прыемна, што ён пазнаў мяне. Але я па-ранейшаму не ведаў, што сказаць яму.

— А што ў вас? — нясмела спытаў ён. — Усе здаровыя?

Вядома, усе здаровыя, але паспрабуй, скажы пра гэта ля магілы дзядзькі.

— І не пытайцеся, — на маім твары з'явілася кіслая грымаса.

— Хвароюць.

— Так, — ён паківаў галавою, глянуўшы на вянкі. — А... справы, дазвольце спытаць?

Справы ішлі цудоўна, але як пра гэта сказаць ля свежай магілы.

— Дрэнна, — адказаў я.

— А самаадчуванне? — не сунімаўся ён.

— Горш і быць не можа.

Ківаючы галовамі, мы глядзелі на поле, што раскінулася за агароджай. Там селяніп нешта старанна акучваў. Навокал панавала цішыня.

— Нічога не зробіш, — па-філасофску вымавіў ён, — такое жыццё. І такім яго трэба прымаць.

Я стаў, сумна панурыўшы позірк.

— Не ўпадайце ў роспач, — ён са спагадаю ўзяў мяне пад руку. — Паглядзіце, які цудоўны свет.

Усхваляваны, я азірнуўся навокал.

— Так будзе лепш, — ён дружалюбна паляпаў мяне па плячы. — Вышэй галаву. Не сумуйце. Усё будзе добра.

Пераклад з польскай

Януш Пшыбыл





### ВАКОЛ СЛАВУТЫХ

Ньютан, калі яго выбралі ў парламент, сказаў за ўвесь час адну толькі «прамову»:

— Ці нельга зачыніць акно? Здаецца, дзьме...

### ПУНКТ ПОГЛЯДУ

Філосаф Іпаліт Тайне, тлумачачы прыдворнай даме Напалеона III некаторыя філасофскія высновы, запытаўся ў яе, як яна разумее любоў у прасторы.

Дама адказала:

— Ну, скажам, у гамаку.

Тайне не задаваў больш пытанняў.

### РАЗНАСТАЙНАСЦЬ

— Дарагі мой, — кажа маладая жанчына свайму партнёру па танцах — трэба ўнесці хоць маленькую разнастайнасць у танец.

— Скажыце, як гэта зрабіць?

— Да гэтага часу вы наступалі мне на левую нагу, а цяпер можа паспрабуеце наступаць на правую?..

Міхась Скрыпка

## КАРОТКАЙ НАВОДКАЙ

Калі ў справах немалых
Ідзеш надзейным крокам,
Асцерагайся пахвалы
Лісіцы і сарокі.

*

Сабака людзям друг,
Аб гэтым знае ўсякі,
Але бяда, як друг,
У цяжкую пару
Акажацца сабакам.

*

Відаць, такі ўжо парадак
Паміж людзей трымаецца:
Даюцца вёдрамі парады —
А кроплямі прымаюцца.

*

Калі супроць людзей ідзеш,
Успомні пагаворку:
«Кіем рэчку не запрэш,
Куды б яго ні торкаў».

*

І ў перамозе
Нямала пакут:
Не быўшы ў парозе,
Не сядзеш на кут.

### ВЫКРУЦІЎСЯ

— Грамадзяне пасажыры! Хто зайшоў у пярэднія дзверы, аплачвайце, калі ласка, за праезд, — сказала кандуктарка аўтобуса.

— А вы, малады чалавек, чаму не бярэце білет? — спытала яна ў аднаго з пасажыраў.

— Дык я ж зайшоў у заднія дзверы.

### ПАМОЧНІК

Па вуліцы ідзе мужчына. У адной руцэ нясе гаспадарчую сумку, другою трымае за руку сына. Раптам малы спыніўся:

— Тата, — сказаў ён, — ты, мусіць, стаміўся. Давай цяпер буду я сумку несці. Толькі ты вазьмі мяне на рукі.

### САМА ВІНАВАТАЯ

— Ніколі не думала, што ты будзеш такім дрэнным хлопчыкам, — дакарае маці пяцігадовага сына.

— Сама вінаватая, — адказвае той. — Калі мяне куплялі, трэба было больш уважліва глядзець на этыкетку, там было напісана, што я не надта паслухмяны.




### ЗУСІМ МАЛА

— Грамадзянін, чаму вы лезеце без чаргі?

— Ды мне толькі папяросы.

— Ну, калі ласка.

— І яшчэ дзве бутэлькі віна, кілаграм селядцоў, тры кавалкі мыла і карабок запалак.

### КЕМЛІВЫ СЫН

— Што трэба зрабіць, каб малако не закісла ў цёплым памяшканні? — спытаў бацька ў сына.

— Яго трэба хуценька выпіць, — адказаў сын.

### ВЕТЛІВАСЦЬ

Ён быў настолькі ветлівы, што гаварыў «Дазвольце!» нават тады, калі лез без чаргі; гаварыў «Калі ласка!», калі прасіў грошай на гарэлку.



— Штосьці ты сумная сёння.

## Дзявочая песня

НЕ СПЯШАЮЧЫСЯ, СА СМУТКАМ

Яс-ны ме-сяц за-ла-ціц-ца у рас-чы-не-ным ак-не. Ме-сяц мой, што мне не спіц-ца? Што трывожыць сэр-ца мне? Я ча-ка-ла цэ-лы ве-чар не-на-гляд-на-га свай-го. Не прый-шоў ён на су-стрэ-чу, я не зна-ю ад ча-го... мне?

Словы А. Ставера

Музыка: Я. Ціхановіча

Яркі месяц залаціцца
У расчыненым акне.
Месяц мой, што мне не спіцца?
Што трывожыць сэрца мне?

Я чакала цэлы вечар
Ненагляднага свайго.
Не прыйшоў ён на сустрэчу
Я не знаю ад чаго...

Як хадзіла, як гуляла,
З ненаглядным удваіх,
Я казала — жартавала,
Нібы горшы ён за ўсіх.

Мусіць, ён застаўся ў крыўдзе
Ад маіх калючых слоў...
Абяцаў, што сёння прыйдзе
І чамусьці не прыйшоў.

Калі ў тым уся прычына, —
Дык які ж а ён дзівак:
То ж за слова на дзяўчыну
Нельга крыўдзіцца ніяк.

Яркі месяц залаціцца
У расчыненым акне,
Месяц мой, што мне не спіцца?
Што трывожыць сэрца мне?











### «Прыемнага апетыту!»

У магазінах Парыжа з'явіўся ў продажы новы сродак супраць паўнаты. На ўпакоўцы подпіс: «Гэты сродак універсальны ва ўсіх адносінах». І яшчэ: «Будзьце цярплівыя, не адчыняйце каробку ў магазіне».

Даверлівыя пакупнікі так і робяць. Дома яны распакоўваюць пакуначак і бачаць там сталовы набор: дзіравая лыжка, відэльцы з паламанымі зубцамі і зусім тупы нож. Да прыбора прыкладзена этыкетка з надпісам: «Прыемнага апетыту!»

### Увасабленне духаў

У Стратфардзе на Эване, мемарыяльным горадзе Шэкспіра, пастаянна ідуць п'есы вялікага англійскага драматурга і яго папярэднікаў. Інтэрпрэтацыя старажытнай драматургіі, аднак, часам зусім не мемарыяльная.

Стратфардскі тэатр нядаўна паказаў «Трагічную гісторыю доктара Фауста» Крыстофера Марло. Артыстка Мэгі райт, якая выконвала ў спектаклі ролю духу Алены Траянскай, прадстала перад публікай у... касцюме Евы. Гледачам растлумачылі, што такое новае «прачытанне» ролі рэжысёрам.

У Стратфардзе на Эване па-новаму «прачыталі» старажытную трагедыю, а ў Бельгіі пісьменнік і рэжысёр Хуга Клаўс дабраўся ўжо і да Бога. У фільме, які ён паставіў, святую троіцу іграюць тры голыя мужчыны.

Англійская паліцыя цярпіма паставілася да вольнага абыходжання ў Стратфардзе з духам царскай асобы. А вось бельгійская паліцыя не пацярпела свавольства. Клаўс асуджаны на чатыры месяцы турмы.




— Рыба гніе з галавы, — цешыліся безгаловыя.